# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 32 (1787) ГОД XXXV БЕЛАСТОК, 12 ЖНІЎНЯ 1990 г. ЦАНА 600 зл.


## БАСОВІШЧА

Так, такой імпрэзы ўсе чакалі, пра такую марылі. Да яе Беларускае аб'яднанне студэнтаў ішло праз шматлікія мерапрыемствы інцыдэнтальнага або ўнутранага характару: святкаванні такіх ці іншых угодкаў, турыстычныя вандроўкі, студэнцкія атрасіны, Купалле, больш ці менш афіцыйныя папойкі... І раптам „Басовішча"... Ну, можа не зусім раптам, ідэя фестывалю музыкі беларускай моладзі выношвалася ў студэнцкім асяроддзі бадай ці не год, хоць ажыццявіць яе давялося на працягу некалькіх напружаных тыдняў перад самой імпрэзай у Гарадку. Агульна кажучы, арганізаванне ў БАСе зводзіцца да назначэння месца і прыблізнага часу імпрэзы (практыка паказвае, што пунктуальнасць, як такая, пазбаўлена для беларусаў жыццёвага сэнсу). Гэтая справа паглынае працэнтаў дзевяноста інтэлектуальнай і фізічнай напругі басаўцаў. Астатнія дзесяць (працэнтаў) прыпадаюць на закуп правіянту. Магчыма, што ў выпадку „Басовішча" гэты прынцып арганізацыйнай асіметрыі пахіснуўся, хоць... пачакаем афіцыйнай версіі падзей у Гарадку, якая будзе неўзабаве, як спадзяюся, прадстаўлена Міколам В. Пакуль што прапаную чытачам свае неафіцыйныя назіранні, адчуванні, хваляванні і блуканні па „Басовішчы".

Месца на фестываль падышло, як трэба. Па-мясцоваму называецца яно Барык, што тлумачыцца па-амерыканску: Вудсток. Пагода, нібы па заказу: аксамітны летні вечар. Графічны сімвал фестывалю: выява свінні з крылламі ў белым полі (лыч з левага боку, трохі скосам на гледача). Калі асэнсаваць гэтыя рэчы агулам, то ў рэшце рэшт можна і выбачыць студэнтам, што назвалі сваё „Басовішча" па-камсамольску: Фестываль музыкі беларускай моладзі. Калі я быў спахапіўся і прапанаваў адзіную адпаведную назву — Фестываль музыкі Маладой Беларусі, — было ўжо запозна: студэнты шпарнулі тысяч колькі афішаў з анонсам імпрэзы. Маладосць, маладосць...

Дзень першы, 13 ліпеня. Меўся быць канцэрт аўтарскай і бардаўскай песні... Але ж барды не даехалі! Аднекуль нехта прынёс звестку, што мінскія выканаўцы запыніліся ў Брэсце і мітынгуюць. Так?! Значыць, на Гарадок ім напляваць?.. Тхнула духам узаемнага беларускага непаразумення... Праграму трэба было перайначваць. Я зразумеў, што ўсё ідзе звычайна, так як і належала спадзявацца. Прыехаў самаходам Пётр Скепка і паставіў на сцэне апаратуру. Мастацкі кіраўнік фестывалю, Бася Кучынская, якая ўжо ад ранння хварэла ад хвалявання, раптам аправілася і нанава зрэдагавала праграму. Учыніла мужнае намаганне запанаваць над хаосам і празмерным ростам арганізацыйнай энтрапіі або, як кажуць амерыканскія беларусы, палагодзіла балаган.

На змярканні хлынула ў Барык публіка. Ужо раней моладзь, якая прыехала сюды на тры дні, расставіла палаткі на пляцоўцы каля пагранічнай заставы. Мясцовыя прыйшлі пазней, але таксама на добрыя гадзіны дзве перад пачаткам імпрэзы, каб скаштаваць піва. Нейкі недабразычлівец „Басовішча" пусціў плётку, што гарадоцкі войт забараніў продаж піва. Нібыта таму, што людзі купляюць міхалоўскае, а гарадоцкага напою ніхто не бярэ... Аксамітны летні вечар захмарыўся на момант сутыкненнем драпежных капіталістычных інтарэсаў.

На сцэну выйшла віцебская „Грамада". Гурт, які падабаецца і старым, і малым. Хлопцы пайгралі і паспявалі гадзінку, размякчылі публіку. Роўна а восьмай наступіла афіцыйнае запачаткаванне „Басовішча": на сцэну выйшла Бася Кучынская ў шыкоўнай сукенцы і пантофліках, а за ёю я ў пінжаку свайго брата і ботах Валіка С., таксама шыкоўных. Прывітанні, пажаданні, падзякі, усё як трэба... Міраслаў Пякарскі, адзін з арганізацыйных кіраўнікоў фестывалю, адкрыў бутэльку шампанскага. Урраааа! „Басовішча" адкрытае! Скрозь буйныя слёзы ўзрушанасці я здолеў убачыць сярод публікі прэзідэнта БАСу Яўгена Вапу з малжонкай, абложаных батарэяй піўных бутэлек, хто ведае пустых ці поўных...



Кася Камоцкая.

На пачатак Сяржук Сокалаў-Воюш заспяваў пра птушку заўтрашняга дня, сімвал „Басовішча". І ў Гарадок „Прыляцела з крылламі свіння"!

Потым пайшла Беласточчына, зямелька родная. Што і казаць... Апалячвалі нас тут і апалячвалі, і не далі рады. Гады дарэмнай натугі. Сёння з шэрай масы тутэйшага люду падымаецца Маладая Беларусь з новымі песнямі і сэрцамі, узмужнелымі ў беспрытульнай вандроўцы па моры непакрыёмай варожасці.

„Не плач, Айчына, вялікі Бог магіл тваіх палечыць раны", — спявала Эля Бэзюк цудоўныя словы Андрэя Сцепанюка. Пра веру ў тое, што прыйдзе час, калі Айчына-Маці ўсіх сваіх дзяцей ахіне сваім лонам... „І будзе баль, карнавал"... на атручанай і чарвівай зямлі, калі народ за-

(Працяг на стар. 6)



„Бесовішча".




— 2 —

# АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

На жаль, беларусы ў адрозненне ад амаль усіх цывілізаваных народаў не маюць развітага пачуцця нацыянальнага гонару. Таго, чым іншыя народы ганарацца, беларусы саромеюцца. Не раз тут у Польшчы даводзілася мне быць сведкам сітуацый, у якіх высокаадукаваныя беларусы паводзілі сябе як блазны, рабілі ўсё, каб толькі не прызнацца да сваёй нацыянальнай прыналежнасці. З вельмі падобнымі сітуацыямі сустракаўся я не раз і ў БССР. Асабліва моцна запамятаўся мне дзень 20 лютага 1990 года. Знаходзячыся ў Мінску, я аглядаў тэлебачанне. Нечакана для мяне аб'явілі, што будзе праведзены перадвыбарчы круглы стол. І сапраўды праз момант паказаліся два вядучыя і пяць кандыдатаў, якія прыступілі да перадвыбарчай кампаніі ў Вярхоўны Савет. Сярод гэтай пяцёркі быў архітэктар, журналіст, пісьменнік, палітык і мастак. Нікога з кандыдатаў я не ведаў, апрача аднаго — мастака Алеся Марачкіна. На пачатку гаварылі ўсе іншыя, апрача майго знаёмага. Заявілі яны, што ў Вярхоўным Савеце намерваюцца займацца культурай. Зразумела, што я быў упэўнены, што пойдзе гутарка аб беларускай культуры. Аднак, міналі мінуты і дзесяткі мінут, а кандыдаты безупынна гаманілі па-руску, не ўспамінаючы нават адным словам аб беларускай культуры. Адзін з размоўцаў разышоўся так, што да культуры залічыў нават вадаспад Ніягара, але ніводзін, пералічваючы фактары і складнікі культуры, не назваў беларускай мовы, беларускіх традыцый, беларускага мастацтва, беларускай літаратуры, беларускага школьніцтва.

Я не вытрымаў і, карыстаючыся тым, што вядучыя падалі нумары тэлефонаў, на якія можна было званіць, у канцы дазваніўся. Тэлефон прыняла паненка, якая заявіла: „Говорите, чего вам надо". Я пачаў гаварыць, аднак паненка мяне катэгарычна спыніла: „Скажите свою фамилию, место работы и место жительства". Я з прыемнасцю сказаў, што называюся Аляксандр Баршчэўскі, жыву ў Варшаве, з'яўляюся беларусам і выконваю функцыю загадчыка кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, а таксама з'яўляюся старшынёй Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

— Что хотите сказать? — спытала паненка.

— Я хачу сказаць, што глыбока абураны тым, што чую і бачу. Не разумею, чаму кандыдаты ў Вярхоўны Савет БССР, якія намерваюцца ў гэтым органе займацца культурай, не размаўляюць па-беларуску і чаму, фармулюючы свае праграмы, нават адным словам не гавораць аб беларускай культуры?! Другое маё пытанне такое: калі шаноўныя кандыдаты ў Вярхоўны Савет намерваюцца навучыцца размаўляць па-беларуску, бо вядома, што прынята пастанова аб дзяржаўнасці беларускай мовы і што на гэтай мове павінен загаварыць перш за ўсё Вярхоўны Савет? Хацеў бы дадаць, што я асабіста і мае знаёмыя беларусы з Беласточчыны не галасавалі б на такіх кандыдатаў.

Прайшло некалькі мінут і ўзяў голас Алесь Марачкін, які паслядоўна гаварыў па-беларуску і моцна прынцыпова змагаўся за інтарэсы беларускай культуры і за тое, каб Беларусь была Беларуссю. Аднак, усе іншыя ў далейшым паслядоўна „чирикали" па-руску так, быццам бы выступалі не ў Мінску, а ў Маскве. Калі перадача пачала набліжацца да канца, вядучы сказаў, што „паступілі тэлефоны і гледачы ставяць пытанне адносна таго, чаму прысутныя не гавораць па-беларуску". Маё пытанне не было прачытана і ніхто на яго не адказваў. Не адказвалі прысутныя і на сцвярджэнне вядучага. Паводзілі яны сябе бойка, мелі пераможныя міны, не мелі найменшага пачуцця сораму. Было выразна відаць, што ніхто з іх і не думае аб тым, каб тлумачыцца з таго, што для іх найважнейшае — з вернасці і аддання рускай, а не беларускай культуры. Гаварылі доўга і было выразна відаць, што яны вельмі задаволены тым, што гавораць, і свае рацыі і перакананні для іх у сто разоў важнейшыя ад рацыяў і перакананняў тых, хто хоча, каб Беларусь была Беларуссю. Адзіным чалавекам, які „ратаваў гонар беларускай дэмакратыі" быў, несумненна, Алесь Марачкін. Не ведаю, які быў лёс у выбарах русіфікатараў, але ведаю, што верны сын беларускага народа Алесь Марачкін у Вярхоўны Савет БССР не ўвайшоў. І ў гэтым факце бачу сведчанне трагічнай з'явы, якая заключаецца ў тым, што забітасць і зняволенасць беларускага грамадства дайшла да такой ступені, што не мае ён пакуль што не толькі пачуцця нацыянальнага гонару, але і пачуцця беларускага сораму. Аднак веру, што ўзбудзім і адно і другое.

**Алесь Барскі**

## ГЭТЫМ РАЗАМ КАТЫ І ВЕШАЛЬНІКІ

„Тыгоднік Бялостоцкі", орган мясцовай „Салідарнасці", у 36 нумары змясціў „Ліст" ад нейкага „Антоні" (прозвішча і адрас да ведама рэдакцыі), які працягвае традыцыю антыбеларускай істэрыі на старонках беластоцкай прэсы. Пачаў яе „Кур'ер Подлясі", прадаўжаў „Кур'ер Поранны", а цяпер іхнюю кліентуру стараецца перахапіць „Тыгоднік Бялостоцкі". У гэтай эстафеце маем усе каманды: камуністычную („Кур'ер Подлясі"), „незалежную" („Кур'ер Поранны") і „дэмакратычную" („Тыгоднік Бялостоцкі"). Дух „патрыятычнага" парыву ва ўсіх камандах той жа самы.

Пад здымкам колішняй царквы (цяпер перабудаванай на касцёл) пеніцца і шалее нейкі мутант, увабраўшы ў свае гены „інтэлектуальную спадчыну" ад Семянякаў, Грынаў, Расінскіх, Кабылінскіх, Кулакаў, „Лемешаў", „Мазураў", „Чаславаў" ды іншых. Паводле гэтага карэспандэнта жыхары Беласточчыны залічваюць сябе да палякаў, тутэйшых, праваслаўных, католікаў, русінаў, украінцаў, расейцаў, татараў, літоўцаў. Беларусам ніхто тут сябе не адчувае. Адкуль жа ўзяліся беларусы на гэтай зямлі? „Антоні" адказвае: беларусы — гэта чужая інтрыга. Спачатку беларусаў стварала царская ахрана, потым бальшавікі, а потым мясцовыя „тутэйшыя", ствараючы камуністычную партыю, тэрарызуючы спакойных жыхароў Беласточчыны пад шыльдай „беларусы". Беларус, паводле аўтара допісу, гэта той, хто, стаўшы сталінскім янычарам, замяніў касу і плуг на дубінку і катаўскую вяроўку (а што вы думалі?!). Мала таго, служачы „вялікаму брату" (чытай: Маскве), ён біў, душыў, вешаў і мучыў палякаў. Цяпер, калі ўпала камуністычная ўлада, беларусы, абараняючы свае пасады і прывілеі, арганізуюць партыі і таварыствы, аплёўваюць Мазавецкага і Валэнсу, з мэтай, каб толькі выйграць выбары і ўтрымацца. Вось такія „вешальнікі" адурманілі народ і ў некаторых гмінах выйгралі выбары. Як рэнегаты без сумлення, дамагаюцца грошай ад ураду і думаюць толькі пра адно: прагнаць палякаў-католікаў з Беласточчыны. (Добра, што хоць „Тыгоднік Бялостоцкі" не піша, як беларусы паляць каталіцкія касцёлы). Пад канец аўтар ставіць пытанне: хто заплаціць за вынікі выбараў у самаўрады, у якіх жыхары выбралі „палітрукоў" (чытай: беларусаў), а не „сапраўдных гаспадароў" (чытай: палякаў)?

Магчыма, што трэба махнуць рукою на гэтыя ідыятызмы і прамаўчаць яшчэ адну знявагу. Што іншае, апрача годнасці, можна супрацьставіць хамству і варварству? На жаль, „Антоні" мае на Беласточчыне цэлую плойму аднадумцаў. Калі я чытаў ягоныя „высновы", мне так і лез у галаву адзін мой знаёмы з працы, які ўжо некалькі гадоў паўтарае: „Беларусы — гэта выдумка бальшавікоў, антыпольская інтрыга". Такіх аніякімі доказамі ні фактамі не пераканаеш. Тым больш, што яны самі добра ведаюць, якая ёсць праўда. Таксама, як ведаюць яе рэдактары салідарніцкага часопіса, і, нягледзячы на гэта, публікуюць ядавітую хлусню. Астаецца толькі пытанне: чаму так робяць?

**Яўген Міраповіч**

## ЧЫТАЕЦЦА З СУМАМ

На хвалі палітычных перамен паяўляецца ў нашай краіне многа неаб'ектыўнай, а часта тэндэнцыйна варожай літаратуры. Адной з іх з'яўляецца кніжка „Deportacje i przemieszczenia ludności polskiej w głąb ZSRR 1939—1945", выдадзенай у Варшаве ў 1989 годзе для патрэб польска-савецкай камісіі гісторыкаў, якая займаецца ліквідацыяй „белых плямаў" у гісторыі савецка-польскіх суадносін.

У кніжцы змешчана 215 нотак гэтак званай анатаванай бібліяграфіі ўсіх тых публікацый, якія паявіліся на Захадзе або ў Польшчы ад пачатку другой сусветнай вайны да 1988 года. Бібліяграфічныя ноткі насычаны цытатамі, фактаграфічным матэрыялам, успамінамі дэпартаваных, у якіх дамінуе антысаветызм. І гэта зразумела. Дэпартацыя прынесла людзям трагедыю. Як успамінаюць ва ўступе складальнікі кніжкі, у ёй „ёсць не толькі адны праўды... таксама рознага тыпу памылкі, няяснасці". Аднак нададзены ёй навуковы характар. Увесь матэрыял падзелены на дзевяць раздзелаў: дакументы, успаміны дэпартаваных, манаграфічныя апрацаванні, фрагменты падручнікаў, фрагменты апрацовак, тэматычныя апрацоўкі, публіцыстыка, літаратурныя творы, а затым змешчана бібліяграфія, індэкс прозвішчаў. Тыраж — 180 тысяч экзэмпляраў (хопіць не толькі для членаў успамянутай камісіі).

Якія ж да такой публікацыі засцярогі? Пачынаюцца яны ад спалучэння ў самой назве кніжкі паняцця **дэпартацыі** як злачынства з паняццём **перамяшчэння** — міграцыі як пазітыўнай з'явы. Вынікаў сумаваць нельга. У той жа назве тэндэнцыйна завужана паняцце да „людносці польскей". Тым часам апісанні насычаны інфармацыямі аб іншых нацыянальнасцях. Вось і кансеквенцыі. Ва ўступе Т. Валіхноўскі двойчы ўспамінае (стар. 20 і 24), што „сярод 1114000 дэпартаваных сталых цывільных жыхароў раёнаў, далучаных у 1939 г. да СССР, было 703000 палякаў, 217000 украінцаў, 83000 яўрэяў, 56000 беларусаў, 35000 палешукоў (?), 20000 рускіх і ліцвіноў". Група „дэпартаваных" палякаў у тым жа ўступе (стар. 21) падзелена наступна: 100000 (ніжэй 150000 і 210000) мабілізаваных у Чырвоную Армію, 50000 добраахвотна выехаўшых на працу ў СССР (гэта ж не дэпартацыя!), 100000 (ніжэй 300000) эвакуяваных у час нападзення гітлераўскай Германіі на Савецкі Саюз і 400000 дэпартаваных з прыгранічных раёнаў. Чаму толькі з прыгранічных?

На стар. 23 успамянутага ўступу той жа аўтар піша: „Гісторыкі і публіцысты падаюць лік больш 2000000 рэпрэсіяваных палякаў..." (?) у тым ліку 1114000 цывільных грамадзян, 336000 чалавек, якія ўцяклі з Генеральнай Губерні ад гітлераўскіх рэпрэсій (было сярод іх 198000 яўрэяў і 138000 палякаў). А ці не было беларусаў з Падляшша? Можна ж было назваць кніжку „Дэпартацыя насельніцтва ў глыб СССР у 1939—1945 г.".

Да дэпартаваных нельга залічваць мабілізаваных, таму што яны былі ўжо ад 2.11.1939 г. грамадзянамі СССР і мелі абавязак адбыцця вайсковай службы. У ніякім выпадку нельга таксама аднесці 181 тысячу ваеннапалонных з 1939 года, большасць якіх адразу была звольнена дадому, 12 тысяч ваеннапалонных з тэрыторыі Літвы, 10 тысяч польскіх афіцэраў, а таксама колькасна значную эвакуацыю палякаў з прыгранічных раёнаў БССР і УССР у 1937 годзе.

Створаны лікавы хаос. Злачынства застаецца злачынствам. А факты і лікі павінны быць дакладныя, правераныя, праўдзівыя.

**Ул. Юзвюк**

# Пяць стагоддзяў скарыніяны

Агенда Арганізацыі Аб'яднаных Нацый ЮНЭСКА аб'явіла 1990 год годам Францішка Скарыны. У сувязі з 500-годдзем з дня нараджэння беларускага першадрукара праводзяцца навуковыя канферэнцыі, наладжваюцца скарынаўскія ўрачыстасці, выдаюцца юбілейныя кніжкі. Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Йорку ў канцы мінулага года выдаў кніжку выдатнага знаўцы беларускага друкарства Вітаўта Тумаша пад загалоўкам „Пяць стагоддзяў скарыніяны". Варта таксама адзначыць, што кніжка была надрукавана ў друкарні вядомага беларускага выдаўца Міколы Прускага.

Вітаўт Тумаш апрацаваў амаль поўную бібліяграфію прац, прысвечаных жыццю і дзейнасці Францішка Скарыны. Сама бібліяграфія папярэджана кароткім уступам, у якім разглядаецца, між іншым, друкарскае майстэрства Скарынавых выданняў і літаратурная спадчына. Ва ўступе чытачы даведваюцца аб прынцыпах укладу паказальніка.

Паказальнік складаецца з пяці раздзелаў. У першым прадстаўлена кароткае апісанне дакументаў, грамат, актавых і летапісных запісаў адносна Францішка Скарыны і ягонага роду. Аўтар пакарыстаўся тымі дакументамі, якія былі надрукаваныя, і тымі, якія яшчэ малавядомыя і знаходзяцца ў архівах (між іншым, у Ваяводскім дзяржаўным архіве ў Познані). У другім раздзеле знаходзіцца кароткае апісанне Скарынавых пражскіх і віленскіх выданняў. Побач назвы кнігі — месца і час

Пяць Стагодзьдзяў
Скарыніяны
XVI-XX
апрацаваў
Вітаўт Тумаш
Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва
Нью Ерк — 1989

ие выдання, лік старонак і змешчаных у кнізе ілюстрацый. Гэта частка працы Вітаўта Тумаша каштоўная тым, што даецца ў ёй спроба паказаць, у якія бібліятэкі ў XVI—XVIII стагоддзях траплялі скарынінскія выданні. У трэцім раздзеле рэгіструюцца рукапісныя копіі выданняў беларускага першадрукара, іх апісанні і перайманні. Аўтар кніжкі кранае справу плагіятаў, хаця цяжка іх ацэньваць без ведання часу і месца ўзнікнення рукапісу. Чацверты, найбольшы раздзел бібліяграфіі змяшчае рукапісныя і друкаваныя скарыназнаўчыя матэрыялы, навуковую і папулярную літаратуру, пачынаючы з 1522 да 1982 г. У ім пералічана больш 2500 загалоўкаў. Гэта найлепш складзеная бібліяграфія прац, прысвечаных Ф. Скарыну і ягоным выданням. Трэба чакаць такой самай бібліяграфіі за апошнія восем гадоў.

Пяты раздзел прысвечаны скарыніянам у літаратуры і мастацтве. У сямі падраздзелах Вітаўт Тумаш рэгіструе скарынаўскую тэматыку ў літаратуры, скульптуры, жывапісе і графіцы, музычных творах, кінафільмах, філатэлістыцы і другіх галінах. Безумоўна, цяжка аўтару бібліяграфіі было пазнаёміцца з усімі творамі — тым больш, што не жыве ён на Беларусі. Сабраныя ім працы паказваюць на багатае зацікаўленне і фасцынацыю Скарыною творцаў культуры і мастацтва.

Добра было б, калі б гэта каштоўнае выданне трапіла ў большай колькасці на родную зямлю беларускага першадрукара, тым больш, што кніжку гэту ўжо цяпер можна ацаніць як адзін з важнейшых акцэнтаў скарынаўскага юбілею.

**Антось Міранові̇ч**

Five Centuries of Scoriniana XVI—XX, compiled and edited by Vitaut Tumash, New York 1989, ss. 284.




**Вітаўт Мартыненка**

**РЭАЛЬНАЕ ДВУХМОЎЕ**

Здрастуй, братка! Ну вось нам
і выпала ўрэмя
Тут сустрэцся, паціснуць руку ў руцэ.
Я — мінчук, хоць шчытаеш,
як будта з дзярэўні...
Я ж хачу гаварыць на радным
языцэ.

Ды не выпала ў школе радной
мне вучыцца,
Мне вучыцель быў твой развітой
сіцылізм —
І засвоіў я з ім, слоўна булку
з карыцай,
Наш рэальны савецкі двухмоўны
лінгвізм.

*Рэфрэн*
Рэальнае двухмоўе, рэальны
білінгвізм,
А можа двуязычча пры безгалоўі
ў ім,
Трохножжа ды трохручча, шэсць
вухаў, тры насы,
Вось і выходзяць з роту такія
славясы.

Ты абідзеўся? Совесць цябе не заела?
Ішчазаюць дзве мовы — двухмоўе
ўстае
На зямлі, што спрадвеку баролась
за дзела
Свае чэсці, культуры і мовы свае.

Так, баролась, змагалась...
Змагалася, зрэшты,
Каб адчуў сябе сынам яе — ты і я.
Ды адно нас валнуе — купіць
„Грацiешты"
Ды закускі, ды жраць і не думаць
ніяк.

*Рэфрэн*






# БЕЛАВЕЖСКАЕ КУПАЛЛЕ

**6 ліпеня пад вечар у Белавежу заехала кавалькада аўтобусаў, а ў іх беларускія калектывы — удзельнікі купальскага святкавання. Купалле ў Белавежы мае ўжо некалькігадовую традыцыю і, нягледзячы на капрызнае надвор'е (штораз ішоў дождж), людзей на прывакзальнай пляцоўцы сабралася многа. Каля гадзіны дзявятай калектывы з БССР і Беласточчыны карагодам увайшлі на чыгуначны перон, які ў той момант стаў своеасаблівай эстрадай. Песняй „Добры вечар добрым людзям" прывітаў сабраных калектыў з вёскі Бакуны (Брэсцкая вобл.). Яны і ўручылі бохан хлеба гаспадару ўрачыстасці — старшыні ГП БГКТ Аляксандру Баршчэўскаму. Ад амерыканскіх беларусаў і Беларускага інстытута навукі і мастацтва з Нью-Йорка прывітанні перадаў Мікола Прускі, вядомы выдавец, а ад улад і грамадства Гродзеншчыны — Віктар Губіч, намеснік дырэктара Абласнога аддзела культуры (на ніжнім здымку стаяць: (злева) М. Прускі, А. Баршчэўскі і В. Губіч). Затым выступілі „Заслаўскія летуценнікі", бельскія „Васілёчкі", „Вітанне" з Паставоў, Камерны хор з Гродна, капэла з Першамайска і хор з Гайнаўкі. Эстрадную праграму закончылі „Дубіны". Апоўначы спявачкі-прыгажуні, спяваючы „Купалінку", пускалі вянкі, а хлопцы-смельчакі кідаліся за імі ў ваду.**

**Нашыя Купаллі падобныя на філарманічныя канцэрты, толькі з той розніцай, што адбываюцца пад адкрытым небам. Не хапае ў іх элементаў народнага гуляння, супольнай забавы. Таня Гаранская з „Заслаўскіх летуценнікаў" абяцала дапамогу ў гэтым нашым арганізатарам. Спадзяемся, што праз год святкаванне будзе больш атракцыйнае. (л)**

**Фота Уладзіслава Завадскага**





## ПАХАВАННЕ

У маім родным Грабаўцы ёсць людзі, размова з якімі становіцца проста прыемнасцю. Напрыклад, Васіль Сапёлка, якому ўжо 89 гадоў. Гэта ён мне расказаў пікантную гісторыю пра пахаванне, якой хачу падзяліцца з чытачамі.

Да маёй прабабкі, Хвіліны Тарасюк, удавы з сынам Паўлам, прыступіў з Елянкі Сымон Казімерук, у якога было яшчэ чатырох братоў: Міхась, Марцін, Цімафей і Якуб. Звалі іх Гаворкавы. Жылі яны вельмі дружна, калі пілі чужую гарэлку або трэба было кагосьці чужога адлупцаваць. Горш было з салідарнасцю, калі пасварыліся паміж сабою. У адным былі згодны: старэйшыя старшынявалі над малодшымі, але малодшыя ўказанняў старэйшых не выконвалі пакорна, а калі была нагода, то ім помсцілі.

Ну, і калісьці здарылася, што іх брат Сымон, які прыступіў да маёй прабабкі, пачаў паміраць. Прыйшоў з панадворка і да сына Мікіты гаворыць: „Хадзі, сыну, да мяне, пойдзем спаць". Мікіта лёг каля бацькі, а таго стала трэсці. Дванаццаць разоў страсянула — і чалавека няма. Хвіліна нарабіла ляманту, што муж памёр і хутчэй паслала суседа да Елянкі, каб паведаміць сваякам і шваграм аб няшчасці.

Браты хуценька прыйшлі, ці мо прыехалі, сталі здзіўляцца, што іх брат Сымон зрабіўся даўжэйшы, чым быў за жыцця. А быў высокі і тоўсты. Пачалі сыходзіцца вясковыя людзі. Жонка нябожчыка ўвесь час плакала. Жанчыны давай рыхтаваць пакойніка на покуць, а тады браты ёй сказалі: „Перастань буняць, а пасылай па гарэлку, не бачыш, колькі гасцей назбіралася?" Хвіліна без слова дала ўнуку Трахімку дваццаць пяць рублёў і сказала, каб за ўсе купіў у Кляшчэлях гарэлкі. Трахім прывёз 54 бутэлькі водкі (паўлітра гарэлкі каштавала тады 46 капеек).

Удава, плачучы, падрыхтавала закуску, мужчыны селі за стол. Жанчыны далей грэлі ваду, мылі Сымона, хацелі апранаць у чыстую вопратку, але крышку спазніліся. Хлопцы хутка ап'янелі і сталі паводзіцца сябе непрыстойна. Якімюк Парфен вылез з-за стала, схапіў нябожчыка за голыя ступні і, спяваючы „тра-ра-ра, тра-ра-ра" пачаў імі выкручваць, а хлопцы за сталом рагаталі на ўсю глотку. Потым заспявалі: „Журылася, бурылася, а тэпер нэ буду. Купыт батько моркача, моркотатысь буду!" Жанчыны пачалі сварыцца, што так нельга пры нябожчыку, грэх. То тыя вываліліся з-за стала, пачалі танцаваць ды спяваць жанчынам на злосць яшчэ болей грэшную песню: „Журылася Катэрына што малая..." Жанчыны пабаяліся граху і, спалохаўшыся, разбегліся па хатах.

**Васіль Петручук**





*Тыкоцін.*
***Мал. У. Петрука.***

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

# ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

Я ўжо пісаў, што ў мінскім Сваце славянскай пісьмовасці звярталa ўвагу адсутнасць цэлага шэрагу выдатных людзей Беларусі. Наважыўся быў пазваніць Васілю Быкаву, Янку Брылю, Пімену Панчанку, але раздумаў: нешта прыкрае, відаць, павісла над гэтай урачыстасцю... На банкеце Старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР у рэстаране гасцініцы „Юбілейная" было шматлюдна, гаманліва, і даволі... самотна. Надараліся небанальныя размоўцы ды неяк адчувалася невытлумачальная пустка паміж намі. Мы, можна сказаць, толькі праводзілі час між па-англійску застаўленымі сталамі. Чамусьці не мелі справы адзін да аднаго, такой сапраўды глыбокай і з філасофскай шырынёю, як гэта ўспамінаецца з мінулага. Гаварылі пра дробнае, якое забывалася ў наступную секунду. Усё роўна што ўдзельнікі спектакля пра канец Рымскай імперыі — усенька валіцца, а прэтарыянцы забаўляюцца.

Запамятаўся мне хударлявы маладзік, які паўканспіратыўным галосным шэптам сярод тысячнага вэрхалу запрасіў мяне асабіста на ўстаноўчую канферэнцыю Нацыянальна-дэмакрытычнай партыі Беларусі, запланаваную недзе пад Купалле. Праз месяц які потым — ужо ў Беластоку — не без ашаломленасці пачуў пра яе ды пабачыў на тэлевізійным экраніку аж з Масквы, але тады, у той канец мая, я пачаў заікацца ды пацець, як гэта бывае са мною, калі здаецца, што нехта тлуміць табе мазгі яўна неперспектыўным.

Не пазваніў я і Сяргею Мацюніну, а прасіў жа ён! Прызнаюся, пабаяўся новых сенсацый ад яго пра зніштажэнне беларускага народа бальшавікамі; даходзіла ж да таго, што выжывалі адны здраднікі і маральныя дэгенераты або дурні і дэбілы. Мацюнін даследуе статыстыку і афіцыйную. З невялікай даваеннай БССР беспаваротна вывезена ў гадах 1926—1939 каля шасцісот шаснаццаці тысяч чалавек, што фармальна зафіксавана як планавы набор працоўнай сілы „в сезонные отрасли Дальнего Севера" (чытай: на прымусовыя вырубкі тайгі). Да гэтай лічбы трэба дадаць — прыблізна — сто тысяч дэпартаваных з Заходняй Беларусі за саракавы і сорак першы гады. Мінімум паўмільёна загавела душою раней, у Вялікі Тэрор. І не менш — у акупацыю, у тактальную партызаншчыну, якая канфрантавала без аглядак на інтарэсы цывільнага насельніцтва. У выніку тактыкі падполля „чым горш, тым лепш" немцы папалілі ды павыстрэльвалі цалюткія прыляснын паветы! У вызваленчы сорак чацвёрты год ваенкаматы мабілізавалі ж старых і маладых у армію, і няшколеныя дывізіі — паўгалодныя, у трантах — паслалі ў балотныя дэпрэсіі пад Гданьскам і Кенігсбергам (наслухаўся я ў сваіх Крынках расказаў тых, што цудам папрыходзілі з вайны жывымі, як гэта яны „голымі рукамі" бралі бетонныя доты гітлераўцаў). Такая расійская традыцыя, што з салдатам не лічацца.

Ведаем: загінуў кожны чацверты беларус. Аніводзін іншы народ не спазнаў ажно гэткага забойства! Супаставіўшы лікі, выходзіць яшчэ адна прапорцыя: на кожныя тры кулі, выпушчаныя ў беларускія грудзі, толькі адна напэўна вылецела з нямецкага аўтамата або карабіна. Нечуваная па сваёй велічыні ў гісторыі чалавецтва трагедыя камуністычнай Расіі — у яе гігантычным самавынішчэнні. А малая Беларусь пры ёй мала не прапала здухамэнтамі ад гэтага шаленства.

*(Працяг будзе)*

# ГРАБАРКА І ШТО ДАЛЕЙ?

Гэтым разам не здарыўся нешчаслівы выпадак. Царква на Святой Гары Грабарцы была спалена. Астаўся толькі попел і слёзы ў вачах вернікаў.

Гарэць найстарэйшыя цэрквы на Беласточчыне, помнікі нашай культуры, пабудаваныя нашымі продкамі ў XVIII-XIX стагоддзях. У апошнія гады мы страцілі шэсць святыняў, — сведкаў нашага тут існавання, нашай гісторыі і традыцыі.

Пажары храмаў у Ячне, Крушынянах, Клейніках, Чыжах, Нарве тлумачылі заўсёды аварыяй электрычнай праводкі або падобнаю хлуснёй, а забойства айца Пятра з Нарвы самагубствам. Ніводзін пракурор ці паліцыянт не сумняваўся ў прычынах трагедый. Усё было ясна — нешчаслівы выпадак і на гэтым канчалася следства.

Велізарная тут віна таксама і нашага асяроддзя, што спакойна прымае не толькі ўсе злачынствы, але і ўсякую бессэнсоўную балбатню наконт прычын. Мы ніколі не пратэставалі і заўсёды верылі ва ўсе афіцыйныя заявы, хаця часам былі яны непраўдападобна смешныя і нелагічныя.

На Беласточчыне асталося яшчэ некалькі старых драўляных святыняў. Добра было б, калі б мы маглі іх перадаць нашым наследнікам, так як мы атрымалі іх ад нашых продкаў. Наш абавязак зрабіць усё, каб захаваць святыні. І не ведаю, ці не найлепш было б, калі б безупынна каля цэркваў стаялі вартаўнікі з вернікаў.

Думаю, што калі ёсць такая патрэба, ніхто не адмовіцца сагнаць адну ноч у месяцы побач царквы. Гэта лепш чым аглядаць папялішчы, а пасля несці цяжар пабудовы новай.

Пакуль не будуць выяўлены і пакараны віноўнікі пажараў цэркваў, нам самім трэба бараніць свае святыні.

**Яўген Міранoвіч**




**З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (II АДДЗЕЛА), ВАРШАВА, 1928.**

— 23 —

Пасля аб'яўлення пастановы аб незалежнасці Беларусі, прадстаўнікі земстваў, гарадскіх самаўрадаў і кансерватыўных груповак пакінулі Раду Беларускай Народнай Рэспублікі. Усе названыя прадстаўнікі далучыліся да групы актывістаў польска-нямецкай арыентацыі — Беларускага нацыянальнага прадстаўніцтва, старшынёй якога быў Раман Скірмунт, а сакратаром Павел Алексюк.

Дзякуючы гэтаму, а таксама з прычыны распаду Беларускай сацыялістычнай грамады, Рада Беларускай Рэспублікі ў значнай ступені была аслаблена, але затое ўзрасло значэнне Беларускага народнага прадстаўніцтва. Стараючыся абараніцца ад канчатковага ўпадку, Рада Рэспублікі на адным са сваіх пасяджэнняў запрапанавала Раману Скірмунту уступіць разам з усёй сваёй групоўкай у Раду і стаць старшынёю Народнага сакратарыята. Планы гэтыя не былі рэалізаваны з прычыны пазіцыі старшыні Варонкі, які не хацеў адмовіцца ад сваёй функцыі. У сувязі з тым, што Рада Беларускай Народнай Рэспублікі не мела адпаведнай сілы для таго, каб прымусіць Варонку падпарадкавацца рашэнню Рады, мусіла ўступіць і прапанаваць кампраміс — парламентарны ўрад.

Усе палітычныя групоўкі, якія знаходзіліся ў Радзе, мелі дэлегаваць у Народны сакратарыят сваіх прадстаўнікоў. Аднак не дапусцілі да гэтага эсэры, якія былі адной з найбольшых груп у Радзе. У сувязі з гэтым старшынёй быў назначаны Іван Серада. Урад Серады аказаўся нетрывалым, бо ў кастрычніку 1918 года быў прымушаны пайсці ў адстаўку і місію стварэння новага ўрада атрымаў Антон Луцкевіч. Серада на працягу ўсяго існавання свайго ўрада стараўся ўзмоцніць значэнне ўсяго беларускага руху. Перш за ўсё Народны сакратарыят разам з Радай стараліся заваяваць папулярнасць сярод грамадства, а таксама сярод буржуазіі і польскай грамадскасці. Стараючыся атрымаць падтрымку з боку Беларускага народнага прадстаўніцтва, Рада была прымушана павярнуць направа. Дзякуючы гэтаму, у склад Рады ўвайшлі прадстаўнікі Польскай рады Мінскай зямлі, памешчыкаў, рускіх кадэтаў, гарадскога магістрата і іншыя. Народны сакратарыят быў названы Радай Народных Міністраў. Урад Серады вёў перагаворы з бальшавікамі ў справе прызнання незалежнасці Беларусі. Бальшавікі згаджаліся прызнаць акт незалежнасці, але толькі тады, калі на Беларусі будзе ўведзена савецкая сістэма.

У кастрычніку 1918 года Антон Луцкевіч сфармаваў урад, склад якога не быў дакладна вядомы. Вядома толькі, што ўвайшлі ў яго Цярэшчанка як міністр фінансаў, а таксама Лёсік, Смоліч і Бадунова.

Ужо было сказана, што беларускія эсэры 26 сакавіка 1918 года поўнасцю выйшлі з Рады і Народнага сакратарыята. Увесь перыяд аж да восені прысвяцілі яны на арганізацыю партыі. У палітычных справах займалі яны асцярожную пазіцыю. Імкнуліся да таго, каб прыцягнуць да сябе як вёску, так і горад. У кароткім часе ўсю краіну пакрылі яны рэгіянальнымі камітэтамі. Узніклі яны ў Гродне, Слуцку, Дзісне, Бабруйску, Барысаве, Мінску, Ігумені, Рэчыцы, Мазыры, Пінску, Баранавічах, Ашмянах, Кобрыне, Слоніме і іншых меншых гарадах.

*(Працяг будзе)*

## У ПОЛЬШЧУ — НА АДПАЧЫНАК

Дабрачынная акцыя ў рамках рэалізацыі праграмы „Дзеці Чарнобыля“ ў Польшчы працягваецца. На працягу трох летніх месяцаў тут адпачнуць звыш тысячы школьнікаў. Іх прымаюць дабрачынныя арганізацыі Каталіцкага касцёла, фонд імя С. Баторыя, Люблінскі універсітэт імя М. Складоўскай-Кюры, гарцэрская абшчына ў Сувалках, Таварыства польска-савецкай дружбы, прафсаюзныя камітэты „Салідарнасці“, „Эльблонгтурыст“ і больш як 150 сем'яў. Паступаюць усё новыя і новыя запрашэнні з Польшчы. *(паводле „Звязды“)*

## З ДРУКУ

### КНІЖКІ ДЛЯ ЛІЦЭЯ

„Завяршаецца збор кніжак для Беларускага ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляскім (Польшча), які год таму распачала студэнцкая патрыятычная суполка „Сьвітанак“. З таго часу было назьбірана каля 2 тысячаў разнастайных часопісаў, кніжак мастацкай літаратуры, падручнікаў і г.д. У гэтую патрыятычную справу ўключыліся шырокія колы грамадзкасьці, а апошнім часам чынны ўдзел узялі суполкі ТБМ і іншыя патрыятычныя згуртаваньні. Цяпер стаіць пытаньне, якім чынам якнайхутчэй перадаць гэтую літаратуру ў Польшчу. У сувязі з гэтым зьвяртаемся да ТБМ, таварыства „Радзіма“ і „Дружба“ з просьбаю дапамагчы нам арганізаваць перасылку літаратуры.

Збоку падаем экслібрыс, які спэцыяльна падрыхтаваны для ўклейваньня ў сабраныя кнігі“.

**„Студэнцкая думка“ № 10, лістапад 1989 г.**







### ДАПАМОГА

Пасля вяртання з Беларусі айцец Аляксандр Надсон звярнуўся да ўсіх беларусаў, пражываючых у Англіі, каб прыйшлі з дапамогай ахвярам чарнобыльскай аварыі. Ён падрабязна расказаў пра сваё падарожжа і недахопы медыцыны і асабліва лячэння дзяцей, хварэючых ад радыяцыі. Са свайго боку я абавязаўся арганізаваць гэтую дапамогу ў сярэдняй Англіі. Памагаюць мне ў гэтай справе спадары Буткевіч і Марочка. Паколькі між намі актыўных беларусаў ёсць вельмі мала, то самая большая фінансавая помач прыходзіць ад англічанаў. Калі гаварыць пра дабрачыннасць, то я думаю, што няма лепшых людзей як у Англіі. Калі я звярнуўся з просьбай, ніхто з іх не адмовіўся. Адзін абяцаў даць транспарт бясплатна на перавоз лякарстваў у Беларусь, а другі сказаў, што дасць грошы на бензін. Агулам сабрана ад іх ужо больш дзвюх тысяч фунтаў грашыма.

Паколькі мне добра вядома, што вялікая колькасць беларусаў, асабліва былых жаўнераў арміі Андэрса, прыналежаць або наведваюць польска-каталіцкі клуб у Бірмінгэм (сярэдняя Англія), я звярнуўся да кіраўніка клуба пана Яжэбскага з просьбай, каб вывесіць у клубе маю адозву аб дапамозе беларускім дзецям, пацярпеўшым ад чарнобыльскай аварыі. Гэтага ён мне катэгарычна адмовіў, кажучы, што палякі маюць сваіх дзяцей, якія патрабуюць дапамогі. Гэтым самым ён паказаў, як нам некаторыя палякі спрыяюць і якія добрыя з іх суседзі. Яны ў далейшым маюць прэтэнзіі на беларускія землі, якія называюць усходнімі крэсамі, і хочуць валодаць нашымі землямі, але памагчы гэтым жыхарам не маюць ніякага жадання. У будучым немцы могуць мець такія самыя погляды на заходнія польскія землі. Відаць, гісторыя палякаў яшчэ не навучыла. Шкада, што тут, на чужыне, ёсць людзі беларускага паходжання, якія спрыяюць і падтрымоўваюць польскія эміграцкія намеры пашырэння польскіх земляў на ўсход.

Тут далучаю газетную выразку з лонданскага „Дзённіка польскага“ з заявай польскіх эміграцыйных арганізацый у Англіі адносна беларускіх заходніх земляў. **М. Баяроўскі,** Бромсграў

### KU NIEPODLEGŁEJ RZECZYPOSPOLITEJ

**Oświadczenie Polskiego Ruchu Niepodległościowego.**

Dzień 11 listopada 1918 roku był i pozostał wielkim świętem całego narodu. Wieńczył zwycięstwem niepodległości półtorawiekowe zmagania z zaborcami, otworzył erę drugiej suwerennej Rzeczypospolitej. Kolejna zmowa ościennych mocarstw z 23 sierpnia 1939 roku, pakt Ribbentrop-Mołotow, rozpętawszy II wojnę światową zniszczyła nie tylko naszą suwerenność. Do dzisiaj Rosja Sowiecka bezprawnie okupuje połowę terytorium Polski w następstwie wymuszonych bagnetami krasnoarmiejców głosowań z października 1939 r. oraz sprzecznych z prawem międzynarodowym dekretów aneksyjnych z 1 i 2 listopada 1939 roku. Pomimo lat udręki, krzywd i poniżenia, kolonialnej eksploatacji kraju przez Moskwę, nieustannie dążymy do odzyskania niepodległości, wierni legalnym władzom Rzeczypospolitej Polski na Uchodźstwie z Prezydentem Ryszardem Kaczorowskim, Rządem i Radą Narodową działającymi zgodnie z obowiązującą Konstytucją Rzeczypospolitej z 23 kwietnia 1935 roku.

Nie uznajemy żadnych dyktatów obcych mocarstw. Tak jak domagaliśmy się uznania paktu Ribbentrop-Mołotow za sprzeczny z zasadami prawa międzynarodowego i nieważny od samego początku, tak żądamy nadal likwidacji jego skutków, a przede wszystkim wycofania wojsk Rosji Sowieckiej z zagrabionych wschodnich ziem polskich oraz z terytorium PRL. Wschodnią granicę Rzeczypospolitej de jure wytycza Traktat Ryski z 18 marca 1921 roku. Granica polsko-niemiecka na Odrze i Nysie Łużyckiej stanowi akt sprawiedliwości dziejowej i nieodzowny czynnik bezpieczeństwa europejskiego, powinna zatem zostać potwierdzona traktatem pokojowym z Niemcami. Natomiast neokolonialna enklawa ZSRR wokół Królewca powinna bezwzględnie ulec likwidacji na rzecz Polski i Litwy.

Naszym celem pozostaje zbudowanie między Niemcami a Rosją suwerennej wspólnoty wolnych narodów Europy Środkowo-Wschodniej, respektującej wzajemne prawo do samostanowienia każdego z nich. Także tylko wolne i suwerenne narody mogą rozstrzygnąć definitywnie przez wzajemne porozumienia rozdzielające je dzisiaj konflikty terytorialne.

Z całą mocą podkreślamy raz jeszcze, że tylko suwerenna i niepodległa Rzeczpospolita będzie gwarantem pełnego rozwoju narodu polskiego.

**Federacja Młodzieży Polski Walczącej**
**Grupa Polityczna „Samostanowienie”**
**Kluby Służby Niepodległości**
**Kongres Solidarności Narodu**
**Niepodległościowa Partia „Solidarności”**
**Niezależny Narodowy Ruch Kombatancki**
**Niezależny Ruch Kombatantów Armii Krajowej**
**Organizacja „Wolna Polska”**
**Polska Partia Niepodległościowa**
**Solidarność Młodych**
**Straż Kresów RP**

Listopad 1989
(„Dziennik Polski” Nr 45 z 11.11. 1989).

# БАСОВІШЧА

(Працяг са стар. 1)

патрабуе адплаты за апаганеныя і знішчаныя свае святыні...

Дзяўчаты запалілі знічы і свечкі і абставілі імі сцэну.

Нешта там не паладзілася ў хлопцаў з „Альбаросікі“, і на вялікае сваё засмучэнне дзяўчаты даведаліся, што выступу гэтага гурта на „Басовішчы“ не будзе. Затое прыбыў іхні вакаліст Янка Хоха з гітарай. Ён заспяваў усяго тры песні, але як! Янка з той нешматлікай і зайздрасці годнай пароды музыкантаў, за якімі дзяўчаты ідуць як у дым. Хай там імперыі знікаюць, хай там.. што яшчэ?... ну, чужаніца жыве побач, а яны ўсё роўна за ім! У атмасферы вычувалася напружанасць, на мяжы эратычнай істэрыкі.

Я асушыў адну бутэльку піва з запасаў прэзідэнта і ягонай малжонкі.

Дуэт семінарыстаў з Яблачына — Дарафей Фіёнік і Адам Ляўчук — зацугляў разбрыканую публіку і прымусіў настроіцца на яшчэ іншы лад: на ўспрыманне ў дыяпазоне духоўнай медытацыі, падмацаванай віртуознай ігрой на гітарах. Нехта, з гордасцю за Беласточчыну, кінуў заўвагу, што „Басовішча“ — гэта найзначнейшая падзея ў дзейнасці БАСу з часу яго заснавання. Мне зрабілася страшна...

Перад мікрафонамі засеў Віктар Шалкевіч з Гародні, адрэкамендаваны Басяй Кучынскай як бацька бруднага беларускага блюза“. Знарок рэзкі і „неахайны“ акампанемент на гітары дасканала адцяніў ядавіта-салодкія, вяскова-гарадскія, мужыцка-інтэлігенцкія панбеларускія тэксты Віктара. Раманс пра Беласточчыну і звалены Яновічаў плот выклікаў фурор... Апаратура Пятра Скепкі пачала даваць у гарадоцкі эфір нейкае падазронае рэха... Віктар сышоў з эстрады як нова крэаваная зорка...

На эстраду ступіў Сяржук Сокалаў-Воюш. „Аксамітны летні вечар“ падхапіў раздабрэлую ад эстэтычных уражанняў публіку на ногі. І яна ўжо не села да канца выступу Сяржука. Спявала разам з ім... А тут яшчэ Сяржук праспяваў новы свой тэкст, у якім дужа-дужа добра адазваўся аб БАСе. Я думаў, што басаўцы падурэюць ад шчасця... Паветра наэлектрызавалася нацыянальным флуідам... Струны гітары лопалі са свістам... Сяржук памяняў адну гітару, другую... „Ну, што спяваць яшчэ?. Людзі сказалі яму, што. Усё, што ведалі і чулі дагэтуль у ягоным выкананні. Апаратура звягала з апошняе моцы і жахалася трывожным сабатажным рэхам...

Было яшчэ пару добрых крокаў да поўначы, калі перад мастацкім кіраўніком фестывалю, міс Кучынскай, узнікла страшнае пытанне: што далей?



*Вольга Цярэшчанка.*

Паводле распіскі, усе пункты праграмы вычарпаліся... Сітуацыю папpавіў Уладзімір Варачаеў, які прыехаў разам з Сяржуком, і запрапанаваў свой выступ... Бася ўхапілася за прапанову, як тапельнік у Семяноўскім вадасховішчы хапаецца за саломінку... Але і гэтага было мала. Тады яна папрасіла ў хлопцаў з „Грамады“, каб выступілі яшчэ раз і даканалі раз'юшаную публіку, каб яна ўжо пайшла спаць...

Ды тут аказалася, што знік адзін неабходны кабель, каб на яго ліха, а разам з ім і Пятро Скепка. Пасля паўгадзінных роспачных гуканняў праз мікрафон паявілася адна паненка і прынесла той кабель... Адкуль яна ведала, што якраз такі патрэбны? „Грамада“ рушыла ў атаку...

Я рушыў у Станцыю Валілы перачакаць у Алеся Карпюка. Маёй растрывожанай існасці пад аксамітным гарадоцкім небам спадарожнічала духоўная і цялесная прысутнасць маёй малжонкі.



*„Грамада“.*

Дзень другі, 14 ліпеня. Зранку неба сыпнула далікатным дожджыкам, от, нехта расплёскаў паўкуфліка на небе або чыхнуў брамнік Пётр... Студэнты пазіралі ў неба з панурым дакорам. Але ж не, усё прасвятлела, і неба, і наваколле, і нашы душы грэшныя...

Апоўдні тэхнічная экіпа з беластоцкага клуба „Гвінт“ прыцягнула грузавіком некалькі тонаў гукаўзмацняльнікаў і кабеляў. Другі дзень „Басовішча“ прызначаны быў цяжказбройным шыхтам. Даехаў яксьці аўтобус з мінчукамі, а ў ім Кася і Алесь Камоцкія, Вольга Цярэшчанка (з Гомеля)... З Гданьска сваім аўтобусікам прыехала „Мроя“, потым паявіўся на сваім табары „Уліс“. Публіка падкарочвала час чакання, узіраючыся ў відэазапіс „Вудстоку“ (амерыканскага). Праграму другога дня зноў трэба было перагледзець і змяніць.

Цяперака гукаўзмацняльнікі былі расстаўлены пад дахам, метраў дваццаць-трыццаць ад учарашняй сцэны.

Пакуль хлопцы шыхтаваліся пры апаратуры, я дарэмна шукаў Валіка С., ці, дакладней кажучы, ягоных шыкоўных ботаў з амерыканскай скуры. Прыйшлося пачынаць фестываль у сваіх паслякамуністычных сандаліках. Бася тым разам выступіла ў спадніччы і кашульцы з надпісам „Басовішча“. Усё пачалося зноў роўна а восьмай. Ажно дзіва брала на такую пунктуальнасць...

Пачалі працавітыя хлопцы з „Грамады“. Публіка завыла і дала сабе волю. Гуляй душа... Дах над пляцоўкай рыпеў і трымцеў ад жаху, але ж стрываў да канца.

Потым была Кася Камоцкая. Цудоўная, неверагодная... Людзі папрысядалі на падлозе, пазапальвалі



*Алесь Камоцкі.*

**ДА СТАГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ КАЗІМІРА СВАЯКА**

# ПОЛЬСКА-БЕЛАСТОЦКІ ПЕРЫЯД

**(Паводле дзённіка „Дзея маёй мыслі, сэрца і волі“)**

**— 4 —**

**XI. Сцежкаю смерці.**

*(Карыцін. Далістова. Закапанае. Лапеніца — беларускія казанні і школы. Закапанае. Падбродзьдзе. Клюшчаны. Буйвідзы. Засвір).*
*(1917—1921).*

*У Карыціне 4.VIII.1917* захварэў я па сільным уплыве крыві і дастаў запаленне лёгачнае апоны. Праляжаў там да вясны 1918 году. Калі немагчыма проста было ўжо прабываць „на кватэры“ ў Карыціне, выехаў у Далістова, скуль за месяц паехаў у Закапанае да санаторыі. Там быў ад 13.III да жніўня, пасля жыў у гарняка на Быстрым, а ў канцы капелянэм пры шпіталі кліматычным да ліпеня 1919 году. Вярнуўся да Клюшчан, пабываўшы ў кс. Германовіча ў Лапеніцы (пад Ваўкавыскам).

*27.VII.1919. Лапеніца.* Прамаўляў тут па-беларуску. Неспадзявана добрай душой была выслухана прамова. хоць колькі асоб з мяйсцовай шляхты спачатку ўсміхнуліся, што „папросту“ аб Богу стаў вучыць. Людцы прывыклі клясці толькі долю сваю і грашыць па-беларуску, вось, дзіўным здалося, што можна і хваліць Бога гэтай мовай, каторая годна ўзгарды ў вачах паноў усіх гатункаў і падпанкаў. Заінтэрэсаванне збудзілася аднак немалое — асабліва (як паказалася пасля) спаміж праваслаўных. Гэтых апошніх можна было б такім парадкам пацягнуць да Касцёла і яго навукі, бо польшчыны яны ня церпяць.

*3.VIII.* Другое казанне. Спачатку адзін голас (на хорах) нездаваленння. Ніхто ўжо ня ўсміхаецца, толькі двух дзяцюкоў крышку маніфэстацыйна выходзяць з касцёла. Ціш, заінтэрэсаванне небывалае.

*4.VIII.* Быў дзекан. Не ўспамінае аб казаннях: нічога ня ведае. Гутарылі крыху аб беларусах.

*8.VIII.* Прышоў ліст ад дзекана. Забараняе навук беларускіх цэлай сваёй „павагай“.

*10.VIII.* Адзін шляхціц перасцерагае, каб навукаў беларускіх ня ўводзіць.

Казання беларускага сяння ня было. Людзі, каторым падабаліся такія навукі, былі нездаволены.

*15.VIII.* Зельная. Людзі спадзяваліся беларускага казання. Нездаваленне было лёгка адчуць. Раманоўскі з Карэвіч бароніць справы і паўстае на „дурняў“, што не разумеюць патрэбы ў нас навук беларускіх праз узгляд на праваслаўных. Было сяння ў касцеле шмат і праваслаўных, каторыя спадзяваліся беларускай навукі.

*17.VIII.* Навукі няма. Па набажэнстве справа прыняла шырокія формы. Паказваецца, што ў дзекана былі дзве бабы і адзін шляхцюк, вядомы брахалка. Адначасна адбываўся з'езд ксяндзоў і дзекана (7.VIII). Былі ўведзены аскаржыцелі тыя і расказвалі справу прад форум духоўным. Выснавам быў пратэст, падпісаны ксяндзамі проці ўваджэння беларускай мовы ў касцёл. Проціў пробашча кс. Я. Германовіча пачаўся байкот цэлага дзеканату. Адзін малады ксёндз, а такжа клерык стаў па старане пробашча. Добры знак. Пробашч сцвярджае, што раздваення ў парафіі па праўдзе няма. Хто згадае мо' праціўнікі беларускіх казанняў звядуцца цалкам. Паказалася, што ёсць крышку тут сведамых беларусаў. Тымчасам пробашч паставіў справу такім парадкам, што калі казанні ня ўвойдуць — ён адракаецца парафіі.

*22.VIII.* Людзі з Грыневіч ужо другі раз дапытваюцца, ці будзе казанне па-беларуску.

*24.VIII.* Ад рана сход сялян у справе школ. Вось што прыгаварылі:

„Дня 24 жніўня 1919 г. мы грамадзяне з вёсак: Грыневічы, Дзямідавічы, Мухайлы, Боркі, Каменіца і Малая Лапеніца разбіралі ў будынку школьным патрэбу адкрыцця школ. Сход адбыўся пад загадам кс. пробашча Лапяніцкага, кс. Я. Германовіча.

Сход пастанавіў: 1. Адкрыць дзве школы ў Мал. Лапеніцы (для хлапцоў і дзяўчат) і адну ў Вялікай Лапеніцы.

2. Навука ў гэтых трох школах павінна адбывацца па-беларуску, з дадатковым прадметам польскім.

3. Сход выбраў спаміж сябе Раду Школьную з ніжэй пісаных асоб: старшынёй: кс. Я. Германовіча, сэкрэтаром С. Шчыглінскага, сябрамі: Тодара Пякарскага з Грыневіч, Яся Бублея і Пятрука Ляхоўскага.

4. Сход даручае Радзе Школьнай здабыць грошы на папраўу будынкаў школьных, знайсці вучыцялёў беларусаў і каб чым хутчэй магла пачацца навука. (Подпісаў трыццаць).

*25.VIII.* Прышоў адказ ад біскупа, у каторым паклікаючыся на цверджанне дзекана, што беларускія казанні быццам шкодзяць Касцёлу, забараняе ўводзіць іх. Праваслаўных раіць сабіраць у школе і клябаніі. Вычуваецца з лісту, што біскуп пад уплывам дзекана і апініі пануючай з прыкрасцяй зрабіў гэта.

Зіму 1919—20 году быў ізноў у Закапаным. Вярнуўся я ў маі. Тымчасам жыву ў Падбродзьдзі, як „абыватэль вольнага паветра“. Няма ведама, што рабіць. Пайсці на парафію: мала сіл. А блуканне даела да ду-




## „ТЫ ЎЖО МНЕ НЕПАТРЭБНЫ“

Як старэйшыя людзі з ваколіц Нараўчанскай гміны гавораць, у Масеве яшчэ перад I сусветнай вайной жыло старое сужонства. Былі бяздзетныя. Цэлае жыццё шанавалі адзін другога і сапраўды жылі так, як Бог загадаў.

Некалькі тыдняў перад смерцю стары захварэў.

— Мусіць, буду ўміраць, — сказаў жонцы.

— Не, — запярэчыла жонка, — ты яшчэ выздаравееш.

— Скажы мне, мая любая, што ты зрабіла б, калі б мяне пасля смерці ўбачыла?

— Ой, гэта так як сонейка з-за хмары выйшла б! Прыйдзі да мяне, прыйдзі, — загаласіла жонка.

Памёр стары. Пахавалі, як трэба. З белага свету стары адыйшоў, але сваёй жонкі не пакінуў.

Даўней пасвілі валоў. Пашы ж не хапала. У сялян, у якіх былі дзеці, валоў пасвілі пераважна дзеці, а хто жыў адзінока, той рабіў гэта сам. Як пагоняць валоў, то заўсёды недзе пад вечар старая жанчына, якая нядаўна пахавала мужа, пачынае верашчаць і куляцца па лузе. Ніхто не бачыць яе „мужа“, але яна яго бачыць і просіць ратунку. Уставала з зямлі, калі быў час гнаць валоў у хлеў.

— Чаго вы, цётка, прыкідваецеся? — спытаў яе аднойчы адважны хлопец.

— Я не прыкідваюся, — апраўдалася бедная жанчына. — Гэта мяне дух мужа мучыць. Лепей было мне сказаць: „Ты ўжо мне непатрэбны!“.

Такая гісторыя паўтаралася пару тыдняў, аж урэшце жанчына памерла. Так скончылася яе пакута. Яе пахавалі з хрысціянскім абычаем. Пасля смерці многа людзей навучала маладых:

— Памятайце, калі нехта нават з найбліжэйшых членаў сям'і перад смерцю скажа, што прыйдзе пасля смерці памагаць, скажы: „Ты ўжо мне непатрэбны!“.

**Аўрора**




## ЦВЯТНАЯ КАПУСТА З ЯЙКАМІ

На 2 невялікія цвятныя капусты ўзяць 4 крутыя яйкі, 2 лыжкі цертай булкі, 1 лыжку масла, 1 лыжку пасечанай зялёнай пятрушкі, соль і цукар па смаку.

Ачысціць цвятную капусту, пакінуўшы маладыя лісткі. Тады палажыць яе ў каструлю з пасоленай вадой, дадаць таксама лыжку цукру. Варыць некалькі мінут у адкрытым пасудзе, тады накрыць каструльку і даварыць. Крутыя яйкі пасячы. Цертую булку падсмажыць на сухой патэльні, пастаянна памешваючы. Перамяшаць з растопленым маслам. Звараную цвятную капусту адцадзіць, пералажыць на талерку, пасыпаць яйкамі і пятрушкай, паліць цертай булкай з маслам. Есці з хлебам ці булкай.

## ТУШАНАЯ КАПУСТА

На 1 кг валошскай капусты ўзяць 15 дэкаў цыбулі, 8 дэкаў тлушчу (шмалец, алей), соль і перац. Зняць з капусты верхнія, пашкоджаныя лісткі, памыць яе, нашаткаваць. Цыбулю абабраць, спаласнуць, нарэзаць дробнай костачкай, падтушыць на тлушчы, дадаць капусту, пасаліць, даліць гарачай вады. Некалькі мінут тушыць у адкрытай каструльцы, пасля каструльку накрыць. Калі капуста будзе мяккая, дадаць солі і перцу. Хто любіць больш вострую страву, можа заквасіць капусту лімонам, журавінамі, памідорамі ці кіслымі яблыкамі. Тады ў капусту трэба будзе дадаць таксама крыху цукру.

## КАПУСТА З ГРЫБАМІ

На 80 дэкаў белай капусты трэба ўзяць 20 дэкаў цыбулі, 20 дэкаў грыбоў (могуць быць пячурыцы), 2 лыжкі шмальцу, паўшклянкі смятаны, паўлыжкі мукі, соль, перац, 3 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі.

Цыбулю абабраць, спаласнуць, дробна пасячы і крыху падсмажыць на шмальцы. Грыбы пачысціць, памыць, адцадзіць і дробна нашаткаваць. Дадаць іх да цыбулі, перамяшаць і тушыць разам каля 15 мінут. Капусту пачысціць, памыць, дробна нашаткаваць і дадаць да грыбоў, пасаліць, перамяшаць. Стушыць, даліваючы, калі трэба, вады. Калі страва будзе мяккая, пасыпаць яе прасеянай мукой, перамяшаць, закіпяціць, дадаць смятану, заправіць па смаку соллю і перцам. Падаючы, страву пасыпаць зялёнай пятрушкай.

## КАПУСТА З ЯБЛЫКАМІ

На 60—80 дэкаў белай капусты трэба ўзяць паўкілаграма кіслых яблыкаў, 2 цыбуліны, паўтары лыжкі шмальцу, соль, цукар і перац па смаку, 2 лыжкі пасечанай зялёнай цыбулькі.

Ачысціць капусту, памыць яе і нашаткаваць. Заліць кіпячай пасоленай вадою, некалькі мінут варыць у адкрытай каструльцы, а пасля пад крышкай. Калі капуста пачне мякчэць, дадаць абабраныя і нарэзаныя чвэрткамі яблыкі. Зварыць капусту, абабраную цыбулю спаласнуць, нарэзаць костачкай і падсмажыць на шмальцы. Дадаць да зваранай капусты, перамяшаць. Заправіць па смаку соллю, перцам і цукрам. Падаючы капусту, пасыпаць яе зверху зялянінай.

**Гаспадыня**




Дарагое Сэрцайка, ад таго часу, калі я засталася ўдавіцай, жыццё маё страціла сэнс. Усё, што раблю, здаецца мне нейкім непаўнацэнным, пазбаўленым значэння. Мне 48 гадоў, і я ніяк не магу знайсці сваё месца ў склаўшайся сітуацыі. Мужа свайго я вельмі кахала. Ёсць у мяне сын, але фактычна можна было б сказаць, што быў. Ад часу, калі ён ажаніўся і нарадзілася ў іх двое дзяцей, сын прысвячае мне час толькі тады, калі патрэбныя яму грошы.

І я, такім чынам, сяджу адна... Ночы мае бываюць доўгія і непраспаныя, а світанку чакаю як нейкага збаўлення. Марыцца мне мужчына, да якога магла б я прытуліцца, калі мне цяжка і калі мне добра, які хацеў бы мяне выслухаць і расказаў бы мне пра свае поспехі і жалі. Ад самотнасці ўначы адчуваю сябе часамі фізічна хворай, і няма на гэта ратунку. Я ўжо не такая маладая, каб узяць таго, каго хацела б, але яшчэ не такая старая, каб браць абы-што. Не магу гэтак! Я мушу кахаць і быць каханай. Ды й не падабаюцца мне старыя, недалужныя мужчыны. Падабаюцца мне маладыя, моцныя людзі і з гэтымі людзьмі толькі мне добра. І яшчэ, не люблю кахання выпадковага, ад часу да часу, абы з кім і як папала. Я б хацела мець мужчыну толькі для сябе і не дзяліць яго з нікім. А тут навокал найбольш жанатых, ну і што з таго, што прыйдзе такі, пасядзіць, закруціць у галаве, а пасля пойдзе да жонкі?.. А я б кахала такога, які застаўся б са мной да раніцы. Дзе знайсці яго, калі навокал так пуста? Адным словам, мне ў хаце патрэбны пастаянны мужчына, а рэдкія сустрэчы, нават калі яны завяршаюцца нейкім сексуальным актам, не даюць мне поўнага задавальнення. Што рабіць, дарагое Сэрцайка, як знайсці сабе месца ў жыцці?

**Лідзія**

Лідзія! Месца ў жыцці можна шукаць па-рознаму і па-рознаму кожнаму ўдаецца яго знаходзіць. Ты хочаш мець пастаяннага мужчыну побач сябе, які б цябе цалаваў, ласкаў, выслухоўваў, расказваў пра свае радасці і смуткі, а да таго ж быў бы яшчэ малады і прыстойны. Такога прывязаць да сябе было б табе найлягчэй гадоў пятнаццаць таму назад, менавіта тады, калі ты перакрочыла трыццатку. Такі ўзрост падыходзіў бы маладзенькім мужчынам. На жаль, з амаль пяцідзесяцігадовай жанчынай можа звязаць яго толькі нешта выпадковае; яшчэ больш будзе ўзбуджаць яго зацікаўленне табою немагчымасць быць заўсёды разам. Шлюб з ім або трыманне яго пры сабе пастаянна паставіла б вельмі хутка крыж на вашым каханні. Кожны ўзрост мае свае правы і толькі ў некаторых выпадках падобная сувязь можа аказацца трывалай.

Аднак жа ты не забівайся! Калі толькі маеш аказію — карыстай з яе! Нават крышынка шчасця, нейкае мімалётнае пачуццё могуць унесці ясны прамень у тваё маркотнае жыццё ўдавіцы. Нават лекары сцвярджаюць, што жанчыне ў тваім узросце сексуальныя кантакты проста неабходныя, ды нават тады, калі былі яны і выпадковыя. Сексуальнае задавальненне лекары лічаць адной з форм захавання маладосці. У крытычных выпадках яны рэкамендуюць нават самазадавальненне.

**Сэрцайка**

P.S. Кахацца ад часу да часу — не значыць, што абы-як.




Мой Астроне! Ніколі не прыдавала я асаблівага значэння снам, але ўсё ж такі кепскі сон мог мне сапсаваць добры настрой. А ў апошні час дык пераканалася, што снам трэба верыць. А ўсё здарылася так. Я паехала да сваякоў на Беларусь. Гасцявалася вельмі добра, крыху павазілі мяне, паказалі што маглі. За пакупкамі я не ехала, дык і па магазінах хадзіць не давялося. Ды і так, зрэшты, казалі, што нічога ў магазінах няма. Збіралася дахаты зусім спакойная, без ніякага хвалявання, што на граніцы хтосьці будзе мяне трэсці і могуць вынікнуць нейкія непрыемнасці. Але вось на дзень перад маім ад'ездам прысніўся мне такі сон. Быццам бы я знаходжуся ў гарах. Але гэтыя горы нейкія дзіўныя. Калі раней сніліся мне горы, найчасцей парослыя нейкай зелянінай, кустамі, дык гэтыя мае горы складаліся з адных каменняў, вялізных валуноў. Я лезу ўверх у нейкай шчыліне, чапляючыся за гэтыя камені, мне цяжка, але неяк уздзябурылася я наверх. Хацела глянуць уніз, але перашкаджаў адзін вялізны камень. Дык я яго папхнула і скінула ўніз. І вось ужо я хаджу наверсе па гэтых валунах, быццам бы па нейкай пляцоўцы. Разам са мной ходзіць нейкая жанчына — але хто яна, я не ведаю.

Прачнулася я ўсё ж такі з нейкім страхам. Гэта ж дарога, думалася мне. На другі дзень сабралася ехаць, білет у кішэні, заказана таксі. Таксі прыехала ўпару. Прыйшлі таксама праводзячыя. Усе мы прыехалі на вакзал, я цешуся, што маю яшчэ паўгадзіны ў запасе, а гэта здараецца наогул вельмі рэдка. Пляменнік пытаецца ў мяне, у колькі адыходзіць мой поезд. Я кажу, што ў дзесяць трыццаць, і ў гэты момант перад маімі вачыма паўстае вялізны вакзальны гадзіннік, на якім выразна стрэлкі паказваюць адзінаццаць ноль-ноль. І тут мяне прашыла холадам. Мой жа поезд ужо ўцёк, бо ходзіць ён па-маскоўскаму часу! (?) А я ж жыла на Беларусі па часу мясцоваму. І па мясцоваму часу заказала таксі на вакзал. Пакінуўшы рэчы на вакзале, я з усімі, хто прыйшоў мяне праводзіць, вярнулася дахаты. Назаўтра раніцай распачала бой за білет на наступны дзень, бо трэба было вяртацца дахаты. Якраз жа і дапамагла нейкая жанчына.

Вер — не вер...

**Агата**

Агата! Вер!

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Група дзяцей з палескага Камарына са сваімі выхаваўцамі.* *Фота Я. Чэрнякевіч*

# ДЗЕЦІ СА СТРАШНАЙ ЗОНЫ

У апошнім часе амаль усе газеты нашага ваяводства пісалі аб пабыўцы на Беласточчыне першай групы дзяцей, якія вось ужо чатыры гады пражываюць на тэрыторыі, дзе чалавек жыць пастаянна не павінен. Іх палескае мястэчка Камарын знаходзіцца ў 30 км ад самога Чарнобыля, ад таго страшнага месца, дзе чатыры гады назад 26 красавіка здарыўся страшэнны антычалавечы выбух — узарваўся блок атамнай электрастанцыі, а выбух па сваёй сіле быў шмат разоў мацнейшы за атамную бомбу, скінутую на японскую Хірасіму ў 1945 годзе.

Аб тым, што шмат людзей загінула ў час выбуху, а яшчэ больш памерла за чатыры гады ад апраменьвання радыяцыяй, усе ўжо ведаюць. Але ў гэтай трагічнай катастрофе ёсць справы, якіх наогул не можа ахапіць людская свядомасць. Па-першае, на многія дзесяцігоддзі, нават стагоддзі зямля асуджана даваць атрутныя, смяртэльныя для чалавека плады. Прыгожыя на выгляд яблыкі, грыбы, вішні вабяць людское вока, але спажыванне іх нясе людзям смерць. Лясы, палі, паветра перапоўнены радыяцыяй, шкоднымі для жывых арганізмаў хімічнымі элементамі.

Вучоныя, пад націскам цэнтральных улад, якія і самі пэўна не разумелі, на што ідуць, тлумачылі людзям, што хопіць ад'ехаць ад месца катастрофы на 30 км, каб быць ужо бяспечнымі.

Жыццё паказала, што гэта няпраўда. Усё насельніцтва паўднёва-ўсходніх раёнаў Беларусі хварэе, вырадаецца, дэгенеруецца. А атрутныя плады зямлі з гэтых раёнаў нясуць смяртэльную небяспеку насельніцтву ўсёй Беларусі і суседніх раёнаў іншых рэспублік.

Мястэчка Камарын вельмі блізка ад Чарнобыля. Некалькі кіламетраў ад апошняй хаты знаходзіцца зона смерці — тэрыторыя, абгароджаная калючым дротам, куды заходзіць забаронена. А ў Камарыне людзі жывуць, садзяць у гародчыках агуркі і моркву, сяляне пасуць на лугах кароў. Чаму гэта робяць? Адказ просты: жыць жа трэба, і есці трэба. А што ўсё гэта нясе з сабою хваробы і смерць — людзі, пакінутыя на саміх сябе, хоць не пагадзіліся з гэтым, але не маюць іншага выхаду.

І вось знайшліся людзі на Беларусі, якія грамадскім чынам, без дапамогі дзяржавы ўзяліся памагаць пакрыўджаным, асуджаным на страшны лёс людзям, на колькі хопіць у іх сіл. Па ініцыятыве Беларускага народнага фронту „Адраджэнне" ўтвораны грамадскі фонд „Дзеці Чарнобыля". Актывісты яго стараюцца хоць на час летніх канікул вывезці дзяцей у чыстыя раёны, як найдалей ад страшных, атрутных раёнаў.

На іх заклік аб ратунку для беларускіх дзяцей адгукнуліся многія краіны, многія людзі. Але перавоз дзяцей, стварэнне для іх санаторнага рэжыму патрабуе вялікіх грошай. Каля мільёна дзяцей трэба штогод вывозіць у чысцейшыя раёны, каб яны маглі хоць трошкі адпачыць ад напору неспрыяльнага асяроддзя.

Але як гэта зрабіць? Хто мае гэтым заняцца? Невялікая група беларускай інтэлігенцыі, нават пры дапамозе грамадства, не ў сілах праводзіць такой масавай акцыі. А пакуль што...

Першыя 50 дзяцей мелі прыехаць на Беласточчыну. І прыехалі, але не 50, а толькі 41 дзіця. Бо 9 дзяцей не магло прыняць умоваў звычайнага жыцця сярод беларускіх людзей на Беласточчыне, у сардэчна адкрытых для іх беларускіх сем'ях. Стан здароўя тых дзевяці дзяцей патрабаваў інтэнсіўнай лекарскай апекі, санаторнага рэжыму, чаго ў Польшчы на сённяшні дзень беластоцкія беларусы арганізаваць самі не могуць.

Але 41 дзіця з-пад Чарнобыля знаходзіцца сярод нас. Арганізатарамі прыёму дзяцей былі Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне і настаяцелі праваслаўных парафій. Дзеці трапілі ў сем'і беластаччан (нядаўна прыехала яшчэ група дзяцей у Гайнаўку).

Дзеці супольна з беластоцкімі аднагодкамі знаёмяцца з горадам, ездзяць на экскурсіі, а пры царкве на Выгодзе з дзецьмі вядуцца штодзённыя сустрэ-

(Працяг на стар. 10)

## Для самых маленькіх

Ніна Маеўская

### ГАЛІНЧЫН ЦУД

Галінчын дзядуля мае вялікі сад. Там многа смачных яблыкаў. Галінка прыбягае ў сад і позіркам выбірае самы спелы, самы наліўны яблык, потым просіць дзядулю, каб ён сарваў яго.

Аднойчы яна доўга думала, які яблычак ёй з'есці. Яны былі ўсе такія спакуслівыя, што адразу і не адгадаеш, які самы лепшы. Галінка падышла да самай маленькай яблынькі. На ёй было мала яблыкаў.

— Адзін, два, тры, чатыры, пяць, — нават палічыла дзяўчынка. З другога боку былі яшчэ два яблыкі. Колькі ж будзе разам, яна не ведала. Яблыкі былі чырванашчокія, спелыя. І Галінка сказала:

— Хачу вунь той!

Але дзядуля не сарваў яблычак.

— Гэты не можна.

— Іх жа многа, — сказала Галінка, — пяць і яшчэ два.

Ёй вельмі хацелася паспытаць яблык з гэтае яблынькі. І яна не адступалася ад дзядулі, аж покуль той не зліставаўся.

— Паспытай, — сказаў ён, — толькі глядзі не выкідай зярняткі. Калі з'ясі яблычак, зярняткі аддасі мне, іх трэба пасадзіць. Паглядзіш, які цуд вырасце.

З'ела Галінка яблык, а карычневыя зярняткі аддала дзядулю. Праўда, адно маленькае пакінула сабе. Пасадзіла яго. Пачала расці яблынька. Галінка ўжо ў школу пайшла, а яблынька ўсё расла, і ніякага цуду не было.

А ёй, Галінцы, не церпіцца яго пабачыць.

— А хіба ж гэта не цуд, што вырасла яблынька! — сказаў дзядуля. — Калі кожны пасадзіць дрэўца, зямля пертворыцца ў сад.

### ЯК АНДРЭЙКА ВАДЗІЎ БАБУЛЮ Ў МАГАЗІН

Да Андрэйкі прыехала з вёскі бабуля, маміна мама.

Уранку Андрэйкава мама сказала ёй:

— Вы ж, мама, схадзіце ў магазін.

— А дзе той ваш магазін? Я не ведаю, — развяла рукамі бабуля.

— З Андрэйкам пойдзеце, ён пакажа. Сынок, — паклікала мама, — сёння цябе бабуля адвядзе ў прадшколле. Па дарозе пакажаш ёй, дзе магазін.

— Добра, — сказаў Андрэйка і пачаў збірацца. Бабуля зашпіліла яму гузікі ў паліто, завязала шалік, і яны пайшлі:

Андрэйка не ведаў назвы вуліцы, дзе было прадшколле. Ён ведаў, што трэба ісці проста,

(Працяг на стар. 10)

## ДЗЕЦІ СА СТРАШНАЙ ЗОНЫ

(Працяг са стар. 9)

чы, дзе бацюшкі расказваюць дзецям аб падставовых прынцыпах хрысціянства і прыдумваюць для іх цікавыя формы адпачынку.

Напрыклад, была арганізавана экскурсія ў Белавежу. Спадабалася там дзецям. І не толькі таму, што там прыгожа, што бачылі зуброў і тарпанаў. Але прыемна ім было адчуць сімпатыі і сардэчнасць жыхароў Белавежы. Для іх бясплатна адкрыты былі ўсе музеі і аб'екты парку, без ніякай платы вадзіў іх экскурсавод і расказваў аб гэтай вядомай ва ўсёй Еўропе мясцовасці, рэстаран „Іва" ў парку гасцінна запрасіў іх на бясплатны абед, а жыхары ад шчырага сэрца правялі збор грошай, каб дзеці мелі свае „фінансы" на марожанае ці на атракцыёны ў „Вясёлым мястэчку".

І ў Беластоку знайшлося нямала людзей, якія з сэрцам адгукнуліся на патрэбы нашых малых гасцей. Падставовая школа № 32 запрасіла дзяцей карыстацца іх заламі для розных заняткаў. ВОП даў магчымасць карыстацца плавальным басейнам, кіраўнікі гарадскога транспарту дазволілі дзецям ездзіць бясплатна па горадзе, дапамагалі дзецям і ПГР Ігнаткі, і беластоцкія лекары, і шмат, шмат іншых людзей.

Самі дзеці з Камарына адчуваюць сябе нядрэнна. Тут у дзіцячай клініцы ўсе яны прайшлі лекарскі агляд, праведзены былі падставовыя аналізы. Са шпітальных запасаў дзецям бясплатна былі прыпісаны і дадзены вітаміны (асабліва ім неабходныя вітаміны з групы В) і некаторыя лякарствы.

Лекары пацвердзілі, што ў кожнага дзіцяці развіваецца па 5—6 розных сур'ёзных хвароб, а поўнасцю здаровых дзяцей сярод іх наогул няма. Але сёння дзеці адчуваюць сябе нармальна. Трошкі ўжо сумуюць па доме, ды, як прызналіся сарамліва, па маміных стравах, бо беластоцкая кухня — гэта найчасцей (у іх уяўленні) „канапкі", бутэрброды з каўбасой, да чаго яны не прызвычаены.

А вось марожанае наша — смачнае. Яно ўсюды дзецям падабаецца. А тут — проста іншае, заграцічнае.

Хутка дзеці паедуць дадому. Маем надзею, што з Беласточчыны яны павязуць дадому добрыя ўспаміны. А сярод дзяцей, у сем'ях якіх яны жылі, будуць мець добрых сяброў на ўсё жыццё.

**Яніна Чэрнякевіч**



## БЕЛАРУСКІ ПЕРШАДРУКАР

**(У 500-годдзе з дня нараджэння)**

**— 5 —**

Асабліва цягнула Францішка ў майстэрні, дзе адлівалі ці адбівалі якіясь узоры ці надпісы.

Гадзінамі любіў ён прастойваць у вольны час у плавільных ці ліцейнях. Сачыў, як у круглаДонных тыглях расплаўлялі метал, як залівалі яго ў каменную форму, ахаладжвалі, а пасля, выняўшы з формы, наводзілі канчатковы бляск. Трохпацеркавыя завушніцы, пярсцёнкі-пячаткі з пяціканцоваю зоркаю, медныя іконкі з лікамі святых на абодвух баках і нават часам з надпісам.

Францішка дужа займалі гэтыя няпісаныя надпісы. І аднаго разу ён надумаў зрабіць пячатку. Узяў тоўстай хваёвай кары, выстругаў роўную дошчачку і пачаў акуратна выразваць на ёй літары, выбіраючы ножыкам усе патрэбныя паглыбленні, каб утварыліся выпуклыя абрысы. Працаваў доўга, марудна, мазольна. Асабліва цяжка даваліся закругленні. А як назло, ледзь не ўсе літары ў ягоным прозвішчы — з аднаго закругленняў.

І вось, нарэшце, закончана праца. Францішак узяў з печы сажы, змяшаў са шмальцам і густа намазаў пячатку.

Дзе б адбіць сваё прозвішча? На печы?

Вось узрадуецца маці, што сын не толькі ўмее прыгожа пісаць, але, як князь, мае ўласную пячатку...

Тут Францішкаў позірк упаў на тонкі беласнежны абрус на стале. „Вось тут і адаб'ю сваё прозвішча", — усцешыўся хлопчык. — Кожны хай бачыць, што гэта Скарынаў абрус. І, доўга не разважаючы, падбег да стала, прылажыў пасярэдзіне пячатку, добра прыціскаючы яе праз усю даўжыню, каб адбітак атрымаўся выразны, а потым паволі адняў, каб хаця надпіс не размазаўся.

І — які жах! Замест прыгожых літар стаялі нейкія незразумелыя знакі. Адвернутыя ў другі бок, нібы тыя, якія ён выводзіў даўно, калі ўзяўся ўпершыню напісаць. „С" павярнулася спінкаю, у „Р" кружок трэба было каб справа, а тут ён злева. З усяго прозвішча толькі „О" ды „Н" адбілася правільна.

І гэта на абрусе... Што будзе, як прыедзе бацька? Добра, што хоць ён цяпер не дома, у ад'ездзе, недзе ў Вільні... Але ж і маці за гэта па галоўцы не пагладзіць...

Што ж рабіць з абрусам? Так сапсаваць... Як схаваць гэты надпіс? Прыкрыць акрайцам хлеба? Усё роўна ж убачаць увечары. А што, калі перавярнуць абрус другім бокам?...

Францішак хуценька перавярнуў. І...

О цуд! Пасярод стала цяпер зграбна красавалася па-стараславянску выпісане — настаўнік жа заўсёды хваліў Францішка за пісьмо — слова СКОРИНА.

**Працяг будзе**

**(З кнігі А. Клышкі „Францыск Скарына")**

## ОЙ, ТЫ КРАЙ МОЙ ЗАЛАТЫ

**Словы М. Кавыля**
**Музыка Э. Зубовіч**

Ой, ты край мой залаты,
край мой васільковы!
Над ракою чараты,
пушчы і дубровы.

Як цымбалы, звонкі бор,
ў зелені даліны,
срэбра рэчак і азёр,
вырай жураўліны.

Пад дугою шархунцы,
коні вараныя...
Шыр і бель ва ўсе канцы,
песні маладыя...

Над ракою чараты,
пушчы і дубровы...
Ой, ты край мой залаты,
край мой васільковы!



## Вершы Віктара Шведа

### ГАРАДСКОЕ ДРЭВА З ЦАНОЮ

Паехала мама з Алесем
У горад па розных справах.
Нехта на дрэве павесіў
Там ідавочна аб'яву.

— Глянь, мама, дрэва з цаною
Так выглядае прыгожа.
І мы, дарагая, з табою
Напэўна купіць яго можам.

### МАМА, А НЕ ПАНІ

Едзе дзяўчынка з мамай
У гарадскую краму.
Тавараў на паліцах
Пільнуюць прадаўшчыцы.
Пачулася пытанне:
— Што патрабуе пані?
І здзіўлена дзяўчынка
Сказала праз хвілінку:
— Не ведала я, мама,
Што пані ты таксама.

### НЕ ВЕДАЕ ШЧЭ ВАСЯ, ХТО НАЙДУЖЭЙШЫ Ў КЛАСЕ

Са школы нечакана
Прыйшоў дамоў сыночак
У вопратцы парванай,
Падбітыя меў вочы.

— Дадай мне, мама, сілы,
І пацярпі ў міжчасе.
Яшчэ ж мы не рашылі,
Хто найдужэйшы ў класе.

### ХАЧУ БЫЦЬ ДОЎГА МАЛАДЫМ

— Чаму за кніжкі ты зусім,
Сынок, не хочаш брацца?
— Хачу, татулька, маладым
Як найдаўжэй застацца.

Сказаў жа ты мне акурат,
Татулька даражэнькі:
— Калі ты будзеш ведаць шмат,
Састарышся, мой Жэнька.

## ЯК АНДРЭЙКА ВАДЗІЎ БАБУЛЮ Ў МАГАЗІН

(Працяг са стар. 9)

потым налева, перайсці вуліцу, а там і прадшколле, побач жа — магазін. У гэты магазін заўсёды заходзіла мама, калі вадзіла Андрэйку ў прадшколле.

Як пераходзілі цераз вуліцу, Андрэйка моцна трымаў бабулю за руку. Ён стараўся ісці трошкі наперадзе яе. На сярэдзіне вуліцы Андрэйка спыніўся, паглядзеў у правы бок і сказаў:

— Бабуля, пачакай. А то яшчэ пад машыну трапіш.

Яны памалу перайшлі на другі бок вуліцы, прайшлі яшчэ і Андрэйка паказаў бабулі:

— Вунь той магазін. Ідзі туды, — а сам збочыў на двор, дзе ўжо чуліся звонкія дзіцячыя галасы.

Так яны і ходзяць кожнае раніцы. Бабуля водзіць унука ў прадшколле, а ён водзіць бабулю ў магазін.

## ЛІЧЫЛКІ З ДЗІЦЯЧАГА ФАЛЬКЛОРУ

* ❋ *

*Раз, два, тры, чатыры,*
*Кошку грамаце вучылі:*
*Не чытаць, не пісаць,*
*А за мышкамі скакаць.*

* ❋ *

*Плыў па моры чамадан,*
*Ў чамадане быў дыван,*
*На дыване плаваў слон.*
*Хто не верыць — выйдзі вон.*

* ❋ *

*Круціцеся, жорны,*
*З'едзен хлеб наш чорны:*
*Крысін і Марысін,*
*Грунін і Анісін,*
*З'едзен і Пятроў хлябок.*
*Намялі для іх, дзядок.*

* ❋ *

*Кацілася торба*
*З высокага горба.*
*А ў той торбе*
*Хлеб, пшаніца.*
*З кім жадаеш*
*Ты дзяліцца?*

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А

| | | | |
|---|---|---|---|
| | 5 | | 6 |
| 3 | = | 5 | |
| | 9 | | 5 |
| 5 | | 6 | ◁ |

*У шэсць пустых квадратаў упішыце адпаведныя матэматычныя знакі (+, —, ×, :) так, каб пасля рашэння гэтага прыкладу (на пачатак указвае стрэлка) вынік усіх дзеянняў быў роўны 5.*



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка".

# КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 2) расстаўляе сеці на мух, 6) тлушч з вяпрука, 7) музычны твор, 8) вада для засолкі, 9) у руках пастуха або фурмана, 11) „непадзельны“, 14) чалавек, не дай Божа, 16) з адным не паляціш, 17) дзівак, якога можна ўлажыць з сеткі, 18) здаровы ў здаровым целе, 20) мае яго кожная ежа, 23) перад табой, 25) нападзенне, 26) палахлівец, 27) лыч, 28) трава пасля травы.

**Уніз:** 1) не можна ведаць без дазволу, 2) двайняты, час або від вады, 3) пачынаецца ў сакавіку, 4) круг на восі, 5) віхура з даждлжом, 9) так, як на размах касой, 10) валасы над лобам, 12) аўтамабіль для вынайму, 13) пазначанае месца, 14) на канцы карагод (365 або 366), 15 пакрывае будынак, 19) адносіны з сардэчнасцю, 21) нага ў ногу, 22) калі будзеш яе кляпаць, дык не на галаве, а на бабцы, 23) жыллёвая дзірка ў зямлі, 24) сельскагаспадарчая прылада з вострымі зубамі.

**ядань**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку, змешчаную ў № 23.**

**Упоперак:** абутак, хлус, кудлач, Іл, арган, бак, назва, горб, адраджэнне, вакзал, дабрата, баран, амур, ар, банан, шчаўе, кутас.

**Уніз:** асіна, балада, указ, тур, адгадванне, клас, хан, удар, сок, бонза, беларус, арда, жабрак, экран, натура, шабаш, вярба, харч, мат.

Кніжныя ўзнагароды выйгралі: Лукаш Пацэвіч з Беластока і Аляксандр Дабчынскі з Бацютаў.




# НІЎКА



— *Гэта мой муж... апранайся хутка!*

## АФАРЫЗМЫ

Абыякавасць, унутраная смерць бывае часам сімптомам знясілення, найчасцей — інтэлектуальнай імпатэнцыі і заўсёды — добрых манер.

✱

Погляд самага мудрага слана менш значыць для осліка, чым меркаванне другога осліка.

✱

Нішто так не чыніць чалавека труслівым і пазбаўленым сумлення, як жаданне ўсім падабацца.

**Марыя фон Эбнер-Эшэнбах**

## ШАТЛАНДСКАЯ ЎСМЕШКА

— Ці чуў ты, — пытаецца шатландзец прыяцеля, — што наш тэнісны клуб пасля двухгадовага перапынку аднаўляе сваю дзейнасць?

— Дык вось урэшце знайшоўся згублены мячык!

* ✲ *

У рэстаран на вакзале ў Глазга ўваходзіць шатландзец і звяртаецца да афіцыянта:

— Дайце мне, калі ласка, бутэрброд.

— Падаць вам бутэрброд з шынкай, паляндвіцай ці яйкам?

— Без нічога.

* ✲ *

У Шатландыі было аб'яўлена банкруцтва прыватнага банка. Перад яго будынкам сабраўся натоўп раздражненых кліентаў. Сярод іх вылучаўся мужчына, які найбольш памставаў:

— Старшыню гэтага банка павінны прыгаварыць да пажыццёвага турэмнага зняволення за абрабаванне бедных людзей з ашчаднасцей усяго жыцця! Членаў праўлення пасадзіць у турму!

— Вы многа грошай патрацілі ў гэтым банку?

— Грошай?! Калі б я патраціў тут грошы, то так лёгка перанёс бы гэта?!

* ✲ *

Адзін шатландзец рашыў купіць сабе машыну. Вядома, выбраў самую танную. Аднак мучыць яго адно сумненне і таму звяртаецца ён да эксперта:

— Скажыце, ці гэта машына патрабуе многа бензіну?

— Але ж не! Вельмі мала. Амаль лыжачку...

— А ці гарбатнюю?..

## БАРАН І БЫК

*(байка)*

Адкрылі ў статку гаварыльню
І дружна ўсе загаварылі.
Баран, што з „мэ“, і бык, што з „му“,
Дрыжалі,
Раптоўна гаваркімі сталі.
Цяпер баран не кажа „мэ“,
Ён галасіста „мэ-э-э!“ бляе,
І бык не раз у слове „му“
Мычыць ажно пяць лішніх „у“.

* ✲ *

Даўно ідзе перабудова,
А ў байках — метады Крылова.

**Янусь Малец**




— *А ў вас якія цяжкасці, каб дастаць да кольца?*



— *Гэта нішто не абазначае, але паміраю са смеху, калі падумаю, што праз тысячу гадоў доўга будуць ламаць галаву, каб гэта расшыфраваць.*


# Ніва

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Мірослава Лукша, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар), Яніна Чэрнякевіч (рэдактар „Зоркі“).

„Niwa“

ul. Suraska 1

15-950 Białystok, skr. poczt. 149
tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty na 1990 r.:

I. Prenumerata pocztowa.

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek, w których nie ma Oddziałów RSW, a także osoby niepełnosprawne, bez względu na miejsce zamieszkania

2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.

3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.

4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na IV kwartał 1990 r. upływa 20 sierpnia 1990 r. włącznie.

5. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 7.800 + 3.250 zł za doręczanie.

6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch“ Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul. Towarowa 28. Nr konta: PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II. Prenumerata własna — prowadzona przez wydawcę.
Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1.300 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej:
— sierpień — 5.200 zł.
— wrzesień — 6.500 zł.

Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 16.900 zł.

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, Nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.

Zam. 1006/90